- Мы ўдзельнічалі ў мінулым годзе і вельмі добра ставімся да гэтага забегу, бо падчас яго на дыстанцыі ў 10 кіламетраў фіксацыя ўдзельнікаў забегу праводзілася ў электронным выглядзе. Кожны ўдзельнік меў чып. Гэтым разам яшчэ лепш. Акрамя святкавання Дня Перамогі, арганізавана эстафета з тэрыторыі Польшчы да Ковеля. Гэта эстафетны бег з нагоды адкрыцця ва Украіне і ў Польшчы Чэмпіянату Еўропы па футболе.

У марафоне бягуць таксама ўдзельнікі з Польшчы, Украіны і Расіі. Уладзімір Малей апрануты ў чорную кашульку з выявай Алеся Бяляцкага і надпісам “Свабоду Бяляцкаму”. Праваабаронца хоча нагадаць, што 67 гадоў таму мы здабылі перамогу не дзеля таго, каб за кратамі знаходзіліся людзі, якія не прымаюць рэжым Лукашэнкі.

new.racyja.by/news/marafonski-zabeg-da-dnya-peramogi

## Савецкія традыцыі ў сучаснай школе

Школьныя педагогі-арганізатары вымушаны працаваць па савецкіх лекалах. Асабліва гэта тычыцца арганізацыі дзяцей і моладзі ў прадзяржаўныя грамадскія аб’яднанні, статуты, традыцыі якіх амаль не змяніліся з часоў Савецкага Саюза і незразумелыя сучасным дзецям.



“Для мяне асабіста гэта траўма жыцця – арганізоўваць піянераў,”– гаворыць педагог-арганізатар адной са школ Брэсцкага раёна.

- Тыя маральныя ўстаноўкі, якія зараз ёсць у піянерскай арганізацыі, страшэнна састарэлі. Піянерскі гальштук у дзяцей толькі смех выклікае. Гэты сцяг, які на зборы савета дружыны трэба ўносіць і гэтыя старыя піянерскія песні, якімі па сённяшні дзень карыстаюцца, таму што новага нічога не прыдумалі. Мне смешна, а дзецям удвая смяшней.

Педагог дадае, што грамадскія арганізацыі, што не падтрымліваюцца дзяржавай, у беларускай школе не прыжываюцца. “Большасць з іх нават на парог школьны не пусцяць”,– гаворыць суразмоўніца.

new.racyja.by/news/savetskiya-tradytsyi-u-suchasnai-shkole

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

Наклад: 299 асобнікаў

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»





Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны

№ 5 (травень), 2012

# Мяжа



**Заканадаўства парушае неад’емныя правы чалавека**

(Чытай на старонцы 9)

## ЗЬМЕСТ







Паглядзіце, якія складаныя справы па 60-100 чалавек і тыя расследуюцца за год. Па Захаранку да гэтай пары ніякай інфармацыі няма. Бачна, што пры гэтай уладзе расследавання не будзе, як і па Ганчару, Красоўскаму і Завадскаму, тут трэба ў комплексе глядзець, таму ніякіх сенсацый мы не чакаем, што 24 чэрвеня, калі будзе працягнуты чарговы тэрмін на тры месяцы, нешта высветліцца.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, адзін з лідараў апазіцыі канца 90-тых гадоў Юрый Захаранка стаў ахвярай “эскадрона смерці”. У 2000 годзе сям’я Захаранкі атрымала палітычны прытулак у Нямеччыне. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі неаднаразова патрабавалі ад уладаў Беларусі расследаваць знікненне палітыка. Праваабаронца Алег Воўчак, кажа, што раз у тры месяцы ён атрымлівае ад следчых органаў паведамленне, што чарговым разам падоўжанае папярэдняе расследаванне.

- У нас у Беларусі расследуюцца непалітычныя справы і праз 5, і праз 10 гадоў, забойствы, напрыклад, і іншыя цяжкія злачынствы. Гэтае таксама будзе расследавана і не думаю, што шмат часу пройдзе. Таму што гэтая справа набыла міжнародны характар. Аб ёй ведаюць усе праваабарончыя структуры і дзяржаўныя міжнародныя органы. І зразумела, ніхто гэтага не даруе, у архіў не спішуць, пакуль не будуць расследаваны праўдзівыя лёсы Юрыя Захаранкі і іншых знікшых апазіцыйных палітыкаў. Пры дэмакратычнай уладзе будзе абавяскова справа расследавана, як гэта адбылося, напрыклад, ва Украіне, у Аргенціне расследуецца і іншых краінах, дзе адбываліся аналагічныя знікненні палітыкаў.

У 2000 годзе сям’я Захаранкі атрымала палітычны прытулак у Нямеччыне. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі неаднаразова патрабавалі ад уладаў Беларусі расследаваць знікненне палітыка.

new.racyja.by/news/13-gadou-tamu-znik-yuryi-zakharanka

## Марафонскі забег да Дня Перамогі

Праваабаронца Уладзімір Малей, аматар марафонскага бегу, і старшыня маларыцкага клуба марафонскага бегу “Маладосць” Аляксандр Лядзінскі сталі ўдзельнікамі марафонскага забегу ў горадзе Ковелі ва Украіне. Забег быў прысвечаны Дню Перамогі.

Гэта ўжо не першы забег у гонар свята Перамогі, як кажа праваабаронца:

яшчэ 140 мільёнаў рублёў пені ў дадатак да сяміста мільёнаў, якія ён ўжо сплаціў.

Алесь Бяляцкі даслаў ліст свайму калегу і сябру праваабаронцу Валянціну Стэфановічу.

- Гэта можа прывесці да таго, што ён, напрыклад, зможа купляць прадукты ў калоніі на суму ўжо не ў пяць базавых велічынь з рахунку, а толькі ў адну. Рашэнне Першамайскага суда не ўступіла ў законную сілу. Таму яшчэ наступстваў няма. Але Алесь прагназуе, што гэта можа стварыць паблемы і такую сітуацыю, што на яго не распаўсюдзіцца амністыя, пра якую гаварыў Лукашэнка, і якая прымеркаваная да трэцяга ліпеня.

У сваім лісце Алесь Бяляцкі таксама падрабязна апісаў свой працоўны дзень у Бабруйскай калоніі.

Валянцін Стэфановіч:

- Піша пра тое, што працуе, і праца займае досыць вялікі кавалак часу. Застаецца мала часу на чытанне кніжак і напісанне лістоў. Пасля працы трэба рабіць нешта па самаабслугоўванню, адбываюцца яшчэ тры праверкі ў дзень. Працэдура хаджэння ў сталовую займае таксама шмат часу, бо ходзяць строем, сталовая вялікая і іх па зменах водзяць.

Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года зняволення паводле абвінавачання ва ўтойванні вялікіх прыбыткаў. Праваабаронца адбывае пакаранне ў Бабруйскай папраўчай калоніі нумар 2. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Алеся Бяляцкага палітвязнем. Беларускі праваабаронца вылучаны да сёлетняй Нобелеўскай прэміі міру.

new.racyja.by/news/ales-byalyatski-pavedamiu-pra-pagarshenne-umovau-u-kalonii

## 13 гадоў таму знік Юрый Захаранка

Увечары 7 мая 1999 года былога міністра ўнутранных спраў выкралі ў раёне вуліцы Магілёўскай у Мінску па дарозе дадому.

Расследаванне справы па факце знікнення Юрыя Захаранкі не завершанае. Даверaная асоба сям'і Захаранка, праваабаронца Алег Воўчак, кажа, што раз у тры месяцы ён атрымлівае ад следчых органаў паведамленне, што чарговым разам падоўжанае папярэдняе расследаванне:

- Я думаю, што яно будзе працягвацца, бо калі б яго хацелі нармальна расследаваць, яго ўжо даўно б за гэтыя 15 гадоў расследавалі.





## На Берасьцейшчыне затрымалі дэлегатаў сходу ініцыятывы Вуса

1 траўня берасьцейскі прадпрымальнік Уладзімер Катрыч разам зь яшчэ двума жыхарамі Берасьця затрыманыя ў Кобрыні і дастаўленыя ў мясцовы РАУС.

Пра гэта паведаміў Віктар Чайкоўскі зь Берасьця:

«Яны ехалі на аўтамабілі Ўладзімера Катрыча ў Менск на ўстаноўчы сход ініцыятывы Вуса па зьмяненьні выбарчага заканадаўства. Пад Кобрынам іх спынілі: маўляў, у Катрыча падробленыя правы кіроўцы. Гэта правакацыя спэслужбаў, бо ён сем гадоў езьдзіць, а як устаноўчы сход — то пасьведчаньне кіроўцы ім падазорнае.»

Як апавёў Віктар Чайкоўскі, затрыманых даставілі ў Кобрынскі РАУС, дзе складаюць пратакол.

Таксама транспартнай міліцыяй затрыманы баранавіцкі актывіст Рыгор Грык ў цягніку па дарозе з Баранавічаў у Менск. Рыгор Грык пасьпеў паведаміць, што разам зь ім затрыманыя тры ягоныя сябры, сярод якіх Вячаслаў Болбат. Пасьля гэтага актывіст сказаў, што ня можа болей гаварыць і паклаў слухаўку. Баранавіцкія актывісты таксама накіроўваліся ў Менск на сход ініцыятывы Дьмітрыя Вуса.

1 траўня ў Менску мусіць адбыцца ўстаноўчы сход ініцыятывы былога кандыдата ў прэзыдэнты Дзьмітрыя Вуса па зьмяненьні выбарчага заканадаўства.

Экс-кандыдат у прэзыдэнты Дзьмітры Вус выказаўся за правядзеньне 1 траўня ў менскім парку Дружбы народаў устаноўчага сходу ініцыятыўнай групы дзеля збору подпісаў грамадзянаў за зьмену выбарчага заканадаўства. Менгарвыканкам ня даў дазволу на сход.

www.svaboda.org/content/article/24565937.html

## У Мікашэвічах замест забароненага мітынга 1 мая ўлады зладзілі “суботнік”

Нагадаем, што заяўку на правядзенне масавай акцыі ў гэтым горадзе Брэсцкай вобласці падавалі старшыня Беларускага незалженага прафсаюза Мікалай Зімін і кіраўнік незалежнай прафсаюзнай суполкі на мясцовым прадпрыемстве “Граніт” Алег Стахаевіч. Падчас мітынгу планавалася выказаць падтрымку рабочым “Граніта”, якія стварылі прафсаюз і дамагаюцца магчымасці для яго легальнай дзейнасці.

Аднак мясцовыя ўлады акцыю забаранілі, спаслаўшыся на тое, што на гарадскім стадыёне 1 мая пройдзе спартакіяда. Больш за тое, баючыся, што несанкцыянаваная "маёўка" усё ж адбудзецца, напярэдадні прадпрыемствам і арганізацыям горада было настойліва рэкамендавана правесці "суботнік" па добраўпарадкаванні.

Як распавёў Алег Стахаевіч, многія ў горадзе не ведалі нават, што ўлады забаранілі мітынг, і былі здзіўленыя, калі ў парку раптам арганізавалі ўборку тэрыторыі. Увогуле, па яго словах, у гэты святочны дзень у Мікашэвічах шмат нечаканасцяў: сіламі ДАІ уезд у горад перакрыты, адбываецца праверка машын, што накіроўваюцца ў гэты населены пункт, а на цэнтральных вуліцах заўважна шмат супрацоўнікаў міліцыі, у тым ліку – спецназу.

spring96.org/be/news/52113

## У Берасьці дэмакраты зладзілі першамайскую акцыю

Берасьцейскія актывісты БСДП(Г), АГП, партыі «Справядлівы сьвет», прафсаюзу РЭП і Свабоднага прафсаюзу беларускага зладзілі акцыю да Міжнароднага дня салідарнасьці працоўных.



Некалькі дзесяткаў актывістаў прайшлі цэнтральнымі вуліцамі ў парк культуры і адпачынку імя 1 Траўня. Удзельнікі акцыі несьлі партыйныя сьцяжкі, бел-чырвона-белыя стужкі й балёнікі. Па дарозе яны раздавалі мінакам віншавальныя паштоўкі.





прыняты Брэсцкім гарадскім выканаўчым камітэтам, парушае яго правы:

- Я перакананы, што рашэнне Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта пад нумарам 12.10 парушае мае канстытуцыйныя правы і дыскрымінуе мяне як грамадзяніна.

Як падкрэсліў Уладзімір Вялічкін, адначасова скарга была накіравана і ў Брэсцкі абаласны выканаўчы камітэт.

Матывацыяй да незадавальнення скаргі судом першай інстанцыі стала адсутнасць спецыялізаваных дамоваў для правядзення мерапрыемства.

new.racyja.com/news/uladzimir-vyalichkin-padau-skargu-u-kanstytutsyiny-sud-dadadzena

## У Берасці не праплацілі футбольныя матчы

Берасцейца Юлія Ракіцянская дзяючы праваабаронцу Ўладзіміру Малею адсудзіла ў берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэту больш за пяць мільёнаў беларускіх рублёў. Прычынаю да пачадачы скаргі ў суд футбалісткі кампанды "Вікторыя 96" стала нявыплата дзяржаўнай інстанцыяй заробку яшчэ з верасня мінулага году. Нягледзячы на тое, аплаціць маральную кампенсацыю ў памеры адзін мільён беларускіх рублёў суд адмовіўся.

Як паведаміў Уладзімір Малей, заробак не быў выплачаны не толькі спадарыне Ракіцянскай, але і яшчэ больш чым дзесятку гульцоў футбольнай каманды. Даўжніком у дадзенай сітуацыі выступае аддзел фізічнай культуры берасцейскага гарадскога выканаўчага камітэту. У сваю чаргу ў дадзенай праўладнай структуры сцвярждаюць, што на каманду выдаткавана на гэты год толькі 200 мільёнаў беларускіх рублёў, што ў параўнанні з мінулым амаль у два разы менш.

## Алесь Бяляцкі паведаміў пра пагаршэнне ўмоваў у калоніі

Старшыня Праваабарончага Цэнтра «Вясна» Алесь Бяляцкі паведаміў пра пагаршэнне ўмоваў у калоніі ў сувязі з новымі матэрыяльнымі прэтэнзіямі да яго з боку Першамайскага суда Мінска.

Пад пагрозай таксама магчымасць датэрміновага вызвалення Алеся Бяляцкага паводле ліпеньскай амністыі. Палітвязень паведаміў пра праблемы, якія ў яго ўзніклі ў сувязі з рашэннем суда спагнаць з яго

месяц абыходзіцца калгасу ўтрыманне адной галавы рагатай жывёлы.

Фермер гатовы заплаціць застраты, хаця яго ні разу не запрасілі пад час складання даведак пра памер страты. Па словах юрыста-праваабаронцы Ўладзіміра Малея, судовыя выканаўцы мелі права накласці толькі арышт на маёмасць і ў тым ліку на жывёл, але не забіраць скаціну самавольна. Гэта ўжо далёка не першыя незаконныя нападкі на яго гаспадарку з боку ўлады, кажа Салтруковіч.

new.racyja.by/news/u-fermera-sudovyya-vykanautsy-zabrali-zhyvelu

## Праваабаронца падаў скаргу ў Канстытуцыйны суд

Брэсцкі праваабаронца Уладзімір Вялічкін звярнуўся ў Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь за абаронай сваіх правоў на распаўсюд інфармацыі і правядзенне мірных сходаў. Скарга была выклікана чарговай адмовай Брэсцкім гарвыканкамам у правядзенні пікету ў падтрымку Алеся Бяляцкага.

Вялічкін лічыць, што ўлада папірае яго грамадзянскія правы, і не толькі яго:

- Дзясяткі заяўнікаў падаюць заявы на правядзенне розных мерапрыемстваў і атрымліваюць адмовы, нягледзячы на тое, што ёсць месцы і права на гэта гарантавана Канстытуцыяй і міжнародным правам. І адмаўляюць між іншым на той падставе, нібыта заяўнікі не заплацілі за міліцыю, за медыкаў, за прыборку тэрыторыі. Мы ўсе грамадзяне і плацім падаткі, за якія ўтрымліваюцца ўсе гэтыя службы. Чаму мы павінны другі раз плаціць? Медыкі не хочуць заключаць дамоў, дасылаць хуткую, каб патруляваць аднаго чалавека, напрыклад. Тое ж самае і з міліцыяй.

Па словах Вялічкіна, выдаткі па аплаце за гэтыя службы вызначаны Пастановай гарвыканкама і тычацца толькі грамадзян. Касацыйную скаргу на адмову ў правядзенні пікету праваабаронца падаў адначасова і ў абласны суд.

* * *

Брэсцкі праваабаронца адстойвае свае правы на распаўсюджанне інфармацыі і правядзенне мірных сходаў у Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь. Уладзімір Вялічкін накіраваў скаргу ў дадзеную інстанцыю на рашэнне Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта.

Праваабаронца лічыць, што закон "Аб масавых мерапрыемствах",





Як апавёў кіраўнік Берасьцейскай абласной арганізацыі БСДП(Г) Ігар Маслоўскі, акцыя прайшла мірна і без затрыманьняў:

«Мы хацелі правесьці акцыю ў больш шырокім фармаце, дзеля чаго загадзя падавалі заяўку на дэманстрацыю і мітынг у гарвыканкам. Аднак улады забаранілі нам яе праводзіць — яны забараняюць ушаноўваць Міжнародны дзень салідарнасьці працоўных цягам дзесяці гадоў».

Спадар Маслоўскі кажа, што ўлады мэтанакіравана падмяняюць сьвята салідарнасьці працоўных сьвятам працы:

«Афіцыйна сьвята так і называецца — Дзень працы. Аднак мы сьвяткуем яго як Міжнародны дзень салідарнасьці працоўных. Бо салідарнасьць працоўных вельмі важная катэгорыя. Будзе салідарнасьць — ня будзе дыскрымінацыі працоўных. Тады будзе гарантаваным і права на працу».

www.svaboda.org/content/article/24566438.html

## У Брэсце распачалася кампанія "Стоп 1210"

Мясцовыя праваабаронцы зладзілі "круглы стол" з нагоды пачатку ў горадзе кампаніі пад назвай "Стоп 1210", накіраванай на захаванне права на мірныя сходы. Сваю назву кампанія атрымала паводле нумара рашэння Брэсцкага гарвыканкама, датаванага мінулым годам, якое ўстанаўлівае парадак правядзення масавых мерапрыемстваў у абласным цэнтры.

На думку прадстаўніка РПГА "БХК" у брэсцкім рэгіёне Ігара Маслоўскага, нормы, якія змяшчаюцца ў гэтым дакуменце, супярэчаць беларускаму заканадаўству, міжнароднаму праву і пазбаўляюць магчымасці правядзення масавай акцыі. Да прыкладу, гаворка ідзе аб неабходнасці пры падачы заявы аб правядзенні мерапрыемства прыкласці да яе дамовы з органамі ўнутраных спраў, установай аховы здароўя і камунальным прадпрыемствам. Прычым аплата па гэтых дамовах мусіць быць праведзена яшчэ да пачатку мерапрыемства, інакш дазвол на правядзенне акцыі анулюецца.

"Пасля ўступлення ў сілу дадзенага рашэння практычна ўсе заяўленыя грамадзянамі, грамадскімі арганізацыямі ці структурамі палітычных партый масавыя мерапрыемствы ў Брэсце былі забароненыя мясцовай уладай са спасылкай на гэтыя нормы", - патлумачыў Ігар Маслоўскі. Гэта і паслужыла падставай для пачатку

кампаніі, мэтай якой з’яўляецца адмена рашэння гарвыканкама № 1210.

spring96.org/be/news/52108

## Берасьцейскі гарсавет - графіку правядзеньня справаздач дэпутатаў не існуе

Берасьцейскі гарадзкі савет адказаў актывістам «Гавары праўду», што графікаў справаздач дэпутатаў перад выбарцамі не існуе.

У лісьце за подпісам старшыні гарсавету Генадзя Масько паведамляецца, што «пакольні дэпутат Савету адказны перад выбарцамі і ім справаздачны, а не Савету, то ён самастойна плянуе, арганізуе і праводзіць сустрэчы з грамадзянамі».

Таму графікаў правядзеньня такіх сустрэч-справаздач не існуе, рэзюмуецца ў адказе старшыні Берасьцейскага гарсавету.

Актывіст «Гавары праўду» Ігар Маслоўскі кажа, што яго такі адказ уразіў:

«Гэта нонсэнс, што не існуе графіку справаздач дэпутатаў. Калі Савет дэпутатаў не валодае такой інфармацыяй, то можна рабіць высновы пра кампэтэнтнасьць такога органу. Замест таго каб аб’ектыўна і ўсебакова разгледзець наш зварот, нам даслалі звычайную адпіску».

У красавіку берасьцейскія актывісты кампаніі «Гавары праўду» накіравалі ў гарсавет зварот, у якім папрасілі прадставіць графік правядзеньня справаздачных сустрэч усіх 40 мясцовых дэпутатаў з грамадзянамі.

www.svaboda.org/content/article/24567449.html

## У гэтым годзе ціск на працоўных узмацніўся

У Беларусі ў гэтым годзе ўзмацніўся ціск на працоўных, - лічыць брэсцкі праваабаронца Уладзімір Малей.

Дыскрымінацыя па прафсаюзнай прыкмеце, нізкі ўзровень заробку, адсутнасць годных умоваў працы - і гэта далёка не поўны спіс парушэнняў.

Праваабаронца Уладзімір Малей падкрэсліў, што такія факты патрабуюць розгаласу:

- Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў Беларусі быў вымушаны звярнуцца ў Міжнародную арганізацыю працы, з-за фактаў парушэння правоў прафсаюзаў. Гэта перадусім непрызнанне дэмакратычных





парушэнне сваіх неад’емных правоў,” - падагульніў брэсцкі праваабаронца Юры Жыдовіч.

new.racyja.com/news/zakanadaustva-parushae-neademnyya-pravy-chalaveka

## Перамога працоўнага

За прапанову стаць прыбіральшчыкам тэрыторыі – кампенсацыя маральнай шкоды ў памеры 500 тысяч беларускіх рублёў. Такой перамогі дамогся брэсцкі працоўны Аляксандр Сахарук.

Машыністу крана прапанавалі падпісаць загад аб пераводзе яго ў прыбіральшчыкі, пакуль праца кранаў на адкрытым акцыянерным таварыстве “Талант” была часова прыпынена. Працоўны палічыў, што з боку прадпрыемства на яго адбыўся незаконны ціск і звярнуўся ў суд. Сітуацыю каментуе брэсцкі праваабаронца Уладзімір Малей:

- Суд Маскоўскага раёна горада Брэста задаволіў іск машыніста крана Аляксандра Сахарука ў прызнанні незаконнага пераводу яго з машыністаў у прыбіральшчыкі тэрыторыі. Суд прымяніў іншую норму, не тую, на якую мы спасылаліся. Суд палічыў, што яго перавялі на працу з ніжэйшым заробкам без яго згоды.

Як падкрэсліў праваабаронца, згодна з працоўным кодэксам, наймальнік мае права часова пераводзіць рабочага на іншую працу толькі ў сувязі з медычным заключэннем. У гэтым выпадку яно адсутнічала.

new.racyja.by/news/peramoga-pratsounaga

## У фермера судовыя выканаўцы забралі жывёлу

У фермера з вёскі Ляхі Пружанскага раёна Васіля Салтруковіча судовыя выканаўцы забралі пяць галоў жывёлы для забеспячэння судовых пазоваў агулам у 17 мільёнаў рублёў.

Забралі, не папярэдзіўшы гаспадара, не пазнаёміўшы яго з судовай пастановай аб канфіскацыі, пры гэтым пашкодзіўшы электрапастуха. Хаця па пазовах за патраву прайшлі толькі папярэднія паседжанні. Цяпер між справай Салтруковічу трэба адваёўваць сваю жывёлу:

- Пяць галоў рагатай жывёлы: тры быка, карову, цялушку. Адзін бык каштуе за дваццаць мільёнаў, а ўкрадзена пяць галоў. За тое, што іх недзе будуць трымаць і карміць, са слоў суддзі дзесці тры мільёны ў

акцыяй. Гэта наўмысна зроблена, каб прыцягваць людзей да адказнасці за любую несанкцыянаваную актыўнасць. Таму гэта такі тэрмін не пэўны.

РР: А якія акцыі з’яўляюцца санкцыянаванымі і што такое санкцыянаванасць?

Юры Жыдовіч: Санкцыянаванасць акцыі – гэта дазвол на яе правядзенне з боку ўладаў. Практыка паказвае, што ўлады надта неахвотна даюць такія дазволы, а калі і даюць, то ў такіх месцах, дзе правядзенне гэтай акцыі губляе ўсялякі сэнс. Да прыкладу, у нас у Брэсце на трохсоттысячны горад ёсць толькі адно месца для правядзення такіх акцый - гэта стадыён “Лакаматыў”, які час ад часу і сапраўды бывае заняты, бо гэтая пляцоўка прызначана зусім для іншых мэтаў. А там яшчэ прымеркавалі правядзенне акцый рознага кшталту.

РР: А калі затрыманне адбылося па выніках нейкай акцыі несанкцыянаванай?

Юры Жыдовіч: У першую чаргу – гэта прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці за правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства. Таксама тут могуць быць людзі прыцягнутыя па самых розных артыкулах адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Да прыкладу, нецэнзурная лаянка, супраціў міліцыі. Тут ужо гэта залежыць ад фантазіі праваахоўных органаў, за што яны могуць прыцягнуць.

РР: А як трэба паводзіць сабе ў такой сітуацыі, калі ўжо праваахоўныя органы падыйшлі?

Юры Жыдовіч: У гэтай сітуацыі трэба ў першую чаргу паклапаціцца, каб пры гэтым прысутнічала як мага больш сведкаў, якія б маглі потым аспрэчыць паказанні міліцыянтаў. Гэта не бывае пасьпяховым у судзе, але ўсё ж такі Вам нейкім чынам бараніцца трэба. Калі Вас затрымліваюць – Вы павінны ведаць, што ў Вас ёсць канстытуцыйнае права на ўдзел у следчых дзеяннях і ўвогуле ў любых дзеяннях свайго прадстаўніка. Карыстайцеся гэтым правам, яно гарантуецца Вам 62-ім артыкулам Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Я вымушаны Вам гэты нумар назваць, каб Вы маглі на яго спасылацца, бо гэта істотная рэч.

“У судзе трэба настойваць на тым, што Вы прымалі ўдзел у гэтым мерапрыемстве і гэтым ажыццяўлялі сваё канстытуцыйнае права. Як правіла, адміністрацыйную адказанасць, калі даказаная Вашая віна, Вы будзеце несці ў любым выпадку. Але калі Вы прызнаеце свой удзел, то будзе прасцей абскарджваць у вышэйшых судовых інстанцыях парушэнне сваіх неад’емных правоў,” - падагульніў брэсцкі праваабаронца Юры Жыдовіч.

new.racyja.com/news/zakanadaustva-parushae-neademnyya-pravy-chalaveka





прафсаюзаў, ціск на сябраў незалежных прафсаюзаў, з-за іх прыналежнасці да гэтых прафсаюзаў. У выніку, гэтых актывістаў звальняюць з працы, а далей парушаюцца правы працоўных.

Адным з найбольш яскравых прыкладаў парушэння правоў працоўных, можна прывесці выхад некалькіх дзясяткаў чалавек з афіцыйнага прафсаюза ў горадзе Мікашэвічы Брэсцкай вобласці на прадпрыемстве “Граніт”. Працоўныя, якія выказваюць сваё незадавальненне кіраўніцтву прадпрыемства, маюць рызыку быць звольненымі за парушэнне працоўнай дысцыпліны, або з імі могуць не працягнуць кантракт.

new.racyja.by/news/uladzimir-malei-u-getym-godze-tsisk-na-pratsounykh-uzmatsniusya

## Брэсцкі абласны суд прызнаў парушэнне права на доступ да правасуддзя

Каардынатар Руху “За Свабоду” у Брэсце Дзяніс Турчаняк праз абласны суд здолеў атрымаць права на магчымасць скардзіцца ў суд першай інстанцыі на дзеянні абласной выканаўчай улады.

Падставай для звароту ў судовую ўстанову абласнога ўзроўня стала тое, што раней суд Ленінскага раёна Брэста двойчы адмаўляў Турчаняку ва ўзбуджэнні справы па скарзе на бяздзеянне аблвыканкама. У гэтай скарзе грамадскі актывіст спрабаваў давесці, што абласныя ўлады наўмысна ігнаруюць патрабаванне распачаць адміністратыўны працэс у дачыненні да намесніка старшыні Брэсцкага гарвыканкама Вячаслава Хафізава. Гэты чыноўнік адмовіўся прадаставіць Турчаняку копіі рашэнняў гарвыканкама, з якіх актывіст спадзяваўся даведацца пра лёс некаторых аб’ектаў гісторыка-культурнай спадчыны Брэста.

У выніку абласны суд прыняў рашэнне, з якога вынікае, што Дзяніс Турчаняк мае права падаваць скаргу ў суд першай інстанцыі на аблвыканкам у адпаведнасці з Працэсуальным кодэксам аб адміністратыўных правапарушэннях. Сам актывіст Руху “За Свабоду” ужо заявіў, што абавязкова скарыстаецца такой магчымасцю.

spring96.org/be/news/52122

## Скандал у Малецкай участковай бальніцы

У Малецкай участковай бальніцы ўзнік скандал падчас пералічэння 2,5 % ад заробка за суботнік. Супрацоўнікам бальніцы трэба было

паставіць свае подпісы пад чыстай графой без указанай сумы грошай, маўляў, грошы трэба як найхутчэй пералічыць у раённы бюджэт.

Прыйшлося звяртацца ў Бярозаўскі райвыканкам для высвятлення абставін, кажа муж медсястры Анатоль Сахаруша:

- Яны навялі спраўку ў Бярозаўскай раённай бальніцы. Тыя далі адказ, што каманды распісвацца на чыстых лістах ніхто не даваў. У Малецкую бальніцу былі дастаўленыя спісы, дзе ўжо былі прастаўленыя сумы ў 2,5% ад заробка. Людзей папярэдзілі, што калі хто не згодны, можа паставіць сваю лічбу ці не даваць наогул. Сказалі, што калі хто і не заплаціць, нікога за гэта караць не будуць.

У Бярозаўскай райбальніцы такіх прапаноў не паступала. Смельчакоў адмовіцца ад пабору не знайшлося, хоць незадаволеных было шмат. Але, па словах медработнікаў, кантракт – рэч небяспечная. Паабяцаць можна адно, а зрабіць іншае.

new.racyja.by/news/skandal-u-maletskai-uchastkovai-balnitsy

## Берасьцейская міліцыя разагнала канцэрт анархістаў

Пад Берасьцем міліцыя разагнала «міжнародны зьлёт» анархістаў. Затрымалі 11 чалавек. Анархісты кажуць, што сабраліся не на зьлёт, а на канцэрт.

Паводле прэс-службы Берасьцейскага ўпраўленьня ўнутраных спраў, «на мерапрыемстве прысутнічала больш за 150 асобаў, у тым ліку прадстаўнікоў розных рэгіёнаў Беларусі, а таксама Ўкраіны і Польшчы. Яны абмяркоўвалі пляны сумеснай арганізацыі скаардынаваных дзеяньняў экстрэмісцкага характару, накіраваных на парушэньне грамадзкага парадку і бясьпекі».

У інфармацыі прэс-службы Берасьцейскага УУС паведамляецца, што на гэтым сходзе «выказваліся лёзунгі ў падтрымку анархістаў, затрыманых у г. Менску і асуджаных за закідваньне бутэлькамі з запальнай сумесьсю амбасады Расейскай Фэдэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь. Акрамя таго, на прыкладзе апошніх падзеяў у Польшчы, калі анархісты правялі шэсьце па цэнтральных вуліцах Варшавы, прапаноўвалася скаардынаваць дзеяньні па міжнароднай супрацы з выездам на месцы правядзеньня акцыяў».

Прэс-служба паведаміла, што супрацоўнікі міліцыі затрымалі 11 актывістаў, якіх паставілі на фота- і відэаўлік. На некаторых склалі





адміністратыўныя пратаколы.

Гэта быў проста канцэрт, на якім выступалі рок-гурты.

Аднак прадстаўнікі анархісцкага руху Берасьця не зусім пагаджаюцца з такой інфармацыяй. Як распавёў «Свабодзе» берасьцейскі анархіст, які захацеў застацца неназваным, міліцыя разагнала звычайны рок-канцэрт, а не «экстрэмісцкі зьлёт»:

«Там не было ніякага зьлёту анархістаў, там быў звычайны канцэрт на адкрытым паветры ў лесе за Берасьцем. Ён меўся быць усю ноч. Аднак гадзіны ў дзьве ночы хлопцы, якія раней зьехалі, пабачылі, што туды едуць аўтазакі. Яны папярэдзілі, патэлефанавалі. Таму там практычна ўсе змаглі схавацца. Наконт таго, што там нейкі міжнародны зьлёт быў — гэта няпраўда. У асноўным там былі берасьцейскія. Гэта быў проста канцэрт, на якім выступалі рок-гурты».

Затрыманых адпусьцілі праз тры гадзіны.

www.svaboda.org/content/article/24570090.html

## Заканадаўства парушае неад’емныя правы чалавека

Што такое акцыя і калі яна лічыцца санкцыянаванай? З удзелам якой колькасці чалавек, згодна беларускага заканадаўства, мерапрыемства можа лічыцца акцыяй? Як весці сябе пры затраманні? На гэтыя і шэраг іншых пытанняў адказаў брэсцкі праваабаронца Юры Жыдовіч.

Праваабаронца падкрэсліў, што на сённяшні дзень па заканадаўству Рэспублікі Беларусь акцыю можа ажыццяўляць нават адзін чалавек:

- Акцыяй можна лічыць любое масавае мерапрыемства, якое праводзіцца з удзелам вялікай колькасці людзей. Улічваючы таксама і пікеты, якія могуць быць індывідуальнымі, любое публічнае праяўленне актыўнасці.

РР: Колькі людзей патрэбна, каб лічыць тое акцыяй?

Юры Жыдовіч: Заканадаўства Рэспублікі Беларусь раздзяляе тыпы акцыяў. Агульна кажучы, нельга вызначыць агульную колькасць людзей для кожнага з гэтых відаў. Пікет можа праводзіцца індывідуальна, да прыкладу. Мітынг - гэта вялікая колькасцю людзей.

РР: То бок акцыяй можа лічыцца дзеянне нават аднаго чалавека?

Юры Жыдовіч: Канешне. Калі дакладна, то можна пералічваць там пункты статуту Аб масавых мерапрыемствах. Зараз заканадаўца пайшоў па такому шляху, што ён можа любое праяўленне актыўнасці лічыць